


Весела звініць ЗБАНОК,
кліча: "Дзеці, на ўрок!"



"Малако дае карова", —
напісаў на КОШЦЫ Вова.

## ЛІТАРА ЗАБЛУДЗІЛА




Ліза мазі папрасіла:
Лізу ВУХА ўкусіла.



Не праедзеш, дружа:
на дарозе РУЖА.



Закрычаў Рыгорка:
— З неба ўпала ГОРКА!



Кажа Славік Светцы:
— Цесна тыгру ў КВЕТЦЫ.



Назбіралася народу.
Дзіва! Поўны вулей ЛЁДУ.



Горка плача Лена:
— Ой, баліць ПАЛЕНА!



Даганяюць восы!
Скінуў дзядзька НОТЫ —
уцякае босы.



Пакідаю я футбол,
гэта мой апошні ВОЛ.

— Вось ён, ВОЖЫК, у кішэні.
Не згубіўся! — кажа Жэня. —
Сам вазьму і натачу:
у грыбы пайсці хачу.






Едуць лялькі ў магазін:
сто Алёнак, сорак Зін.
А вось РЫТ-РЫТ-РЫТ
толькі ТРЫ-ТРЫ-ТРЫ.




Наша ВЕРА-ВЕРА-ВЕРА
маляваць умее звера.
— Ён РАВЕ-РАВЕ-РАВЕ?
— Дзе там! Квакае ў траве.

## РЭХА



— Не хапае апельсіна, —
кажа ДЗІНА-ДЗІНА-ДЗІНА. —
Знік АДЗІН-АДЗІН-АДЗІН,
самы большы апельсін.
Уздыхнуў Цімошка:
— Пэўна, з'ела кошка.



"МАРКА-МАРКА-МАРКА-МАРКА", —
піша па складах Тамарка.
А малодшы брат Макар
затуляе ручкай твар —
і да шафы шпарка:
— Ой, КАМАР-КАМАР-КАМАР!
Уцякай, Тамарка!

ЗАТУЛЯЦЬ — заслонять 



Кот прысеў на беражку,
кінуў вуду ў раку.
Шэпча небарака:
— Ты, РАКА-РАКА-РАКА,
падары мне акунька.
Ша... Штось клюнула.
Шчупак?
Вуду выцягнуў рыбак —
КА́РА-КАРА! Ізноў рак...



Самы дужы ў лесе звер —
зубр. Не верыш? Дык правер.
У БЕЛАВЕЖЫ-ВЕЖЫ-ВЕЖЫ
ён ЖЫВЕ-ЖЫВЕ-ЖЫВЕ.



Гэй, мушыная сям'я!
Лепшы ткач у лесе я.
Тонкі кужаль ТКУ-ТКУ-ТКУ.
Цэх мой — цёмны КУТ-КУТ-КУТ.

КУЖАЛЬ — тонкая льняная ткань КУТ — угол



Выхвалялася змяя:
— Гэта горка мая!
У горцы норка мая!
У норцы ЯМА-ЯМА-ЯМА...
Ш-ш-ш... МАЯ-МАЯ-МАЯ.



Зноў зязюля для прысмакаў
просіць дзецям МАКУ-МАКУ.
— Ой, КУМА-КУМА-КУМА,
у цябе дзяцей няма!




Наступаюць халады.
Дзік адсыпаў жалуды
на МУКУ-МУКУ-МУКУ
КУ́МУ-КУМУ-КУМУ!

ПРЫСМАКі — лакомства



Абмарозіў шэры шчокі
і пытаецца ў сарокі:
— Дзе ўзяць МАЗІ-МАЗІ-МАЗІ?
У-у-у... ЗІМА-ЗІМА-ЗІМА!




Тры ЛАСІ-ЛАСІ-ЛАСІ
выйшлі да дарогі.
Ну і СІЛА-СІЛА-СІЛА!
А якія рогі!

# СЛОВЫ НА АРЭЛЯХ



Новы Кацін мячык
коціць кот па хаце.
КАЦІ́, коця, КА́ЦІ!



— Не ЮЛІ́ ты ля СТАЛА́, —
кажа тата Ю́ЛІ. —
СТА́ЛА цёмна, трэба спаць!
Лялькі вунь паснулі.




Адышоў я ад пліты,
кажу ВА́РЫ:
— ВАРЫ́ ты.



Расфарбую зараз ЗА́МКІ
для сябе і для Аксанкі.
Намалюю ЗАМКІ́,
каб не ўлезлі ваўкі.



Два браты-КРАТЫ́,
у зямлі раты.
Выламалі КРА́ТЫ —
і бягом дахаты.



Меншы сын пытае ў мамы:
— Хто ў вадзе вусаты СА́МЫ?
Кажа мама:
— Мы! САМЫ́!

КРА́ТЫ — решётка



Ставім ВА́ЗЫ на ВАЗЫ́.
Адвязём за два разы.



Мы шукаем ДЗІМУ —
не відно з-за ДЫМУ.



Жартавалі ў лесе ЛІСЫ:
— Леў з цырульні выйшаў ЛЫСЫ!

## ГУКІ-БРАТКІ



Цяжка ісці ззаду —
каля САДУ СЯДУ.



Я свой вывадак ВЯДУ
па крынічную ВАДУ.



Мой мядзведзік мае МОДУ
перад сном паесці МЁДУ.

*КРЫНІЧНАЯ — родниковая*



Наляпіў Мікола з ВОСКУ
смешных цацак на ўсю ВЁСКУ.



Чмель стаміўся, сеў на ЛОТАЦЬ.
Адпачне — і далей ЛЁТАЦЬ.



Зноў карась разводзіць ПЛЁТКІ:
"Шчупака пабілі ПЛОТКІ".

ПЛОТКА — плотва (небольшая речная рыба) 




У дупло залез Савось:
ВОС няма, а мёд — ён ВОСЬ.



А грыбоў жа ў БАРЫ!
Самі просяцца: БЯРЫ!

Вучэбнае выданне

СТОРАЖАВА Надзея Аляксееўна

**СЛОВЫ РОЗНЫЯ БЫВАЮЦЬ**

Для дзяцей малодшага школьнага ўзросту

Рэдактар *Д. В. Аўчароў*
Мастак *П. У. Гарадцоў*
Вёрстка *В. В. Якушык*
Карэктар *Т. В. Басалыга*

Падпісана ў друк 05.09.2016. Фармат 84×90 1/16.
Папера мелаваная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 1,4. Ул.-выд. арк. 1,5. Тыраж 2000 экз. Заказ 829.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства "Выдавецтва "Пачатковая школа".
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/50 ад 08.10.2013.
Вул. Фабрыцыуса, 5, каб. 201, 220007, г. Мінск. Тэл. 285-37-44. Тэл./факс 233-99-34.
www.p-shkola.by; e-mail: psh@p-shkola.by

Адкрытае акцыянернае таварыства "Транстэкс".
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/37 ад 29.01.2014.
Вул. Чапаева, 5, 220034, г. Мінск.

УДК 811.161.3(075.2)
ББК 81.2Беи-922
С82

**ISBN 978-985-565-261-9**

